## ■ Пункт погляду

# СЦІПЛАЯ ЗАБЫЎЧЫВАСЦЬ

**Прэзідэнцкі марафон пачаўся, і з кожным днём усё большую актыўнасць пачынаюць праяўляць патэнцыяльныя кандыдаты на вышэйшае дзяржаўнае крэсла. Яны імкнуцца сабраць пад свой сцяг як мага больш прыхільнікаў, не скупяцца на шчодрыя абяцанні. Казырнай картай у Старшыні Савета Міністраў стала заключанае пагадненне аб аб"яднанні грашовых сістэм.**

Слоў няма, развал адзінай эканамічнай прасторы былога Саюза паставіў на калені ўсю народную гаспадарку, прывёў да гіперінфляцыі і глыбокага крызісу, з якога не можам выбрацца вось ужо каторы год запар. І толькі цяпер, як імкнуцца пераканаць нас афіцыйныя ўлады, паявіўся такі шанц. Шматлікія выгады прынясе нам саюз з Расіяй.

Ніхто не збіраецца аспрэчваць, што аб"яднанне рускіх, беларусаў, іншых славянскіх народаў гартавала нашу сілу і моц, дапамагала трымаць высокі аўтарытэт на міжнароднай арэне. Аднак усё гэта ўжо ў мінулым. Раз"яднанасць зрабіла нас слабымі, паставіла на мяжу выжывання. Па чыёй віне? Хто падтрымаў белавежскія пагадненні?

Не гавораць. Пэўна, ва ўрадзе лічаць, што ў людзей кароткая памяць і іх можна карміць толькі аднымі абяцаннямі. Іх жа давялося нам чуць ад урада вельмі многа. Сваё працвітанне мы звязвалі з набыццём суверэнітэту. Будзем, маўляў, працаваць самі, ні ад каго не залежачы. Не выйшла. Поўны развал эканомікі.

Нічога, крыху пацярпіце, супакойвалі нас, назапасім стартавы капітал і рушым наперад. Вось і праграма ёсць. Асноўныя напрамкі далейшага развіцця народнай гаспадаркі і шляхі выхаду з эканамічнага крызісу, якія ўносіліся ўрадам на разгляд сесіі Вярхоўнага Савета, падаваліся як эфектыўная мера паляпшэння становішча спраў. Аб іх зараз сціпла маўчаць, бо ніякіх кардынальна станоўчых вынікаў не атрымалі. Па-ранейшаму назіраецца падзенне аб"ёмаў вытворчасці, пагаршаецца жыццёвы ўзровень людзей.

На думку гаспадарчых кіраўнікоў і прадпрымальнікаў, урад не кантралюе сітуацыю і не ведае, што рабіць. Дакладнай ацэнкі рэальнага становішча спраў не можа даць сёння ніхто, бо за імклівым скарачэннем вытворчасці не паспявае нават статыстыка, якая ведае ўсё.

Не каб з самага пачатку нашага ўваходжання ў рынак вызначыць комплекс мер па ўліку работнікаў, якія будуць вызваляцца ў ходзе рэформ, іх перавучванню, прадугледзець магчымасці стварэння новых рабочых месц. Існуючая дзяржаўная праграма занятасці спазнілася і нічога канкрэтнага не дае. Згодна з ёю, сёлета ў рэспубліцы вызваліцца 690 тысяч чалавек. Адкуль узята гэтая лічба? Ужо сёння да 75 працэнтаў прадпрыемстваў стаяць. На многіх вымушаны адпраўляць людзей у адпачынак за свой кошт, пераходзіць на трохдзённы рабочы тыдзень. Тым самым маскіруецца масавае беспрацоўе. А неўзабаве не хопіць і сродкаў на ўтрыманне "лішніх" работнікаў, ды і народ стоміцца ад падобнага "адпачынку". Масавыя ж звальненні — папярэднік сацыяльнага выбуху.

У праграме сказана, што 400 тысяч чалавек уладкуюцца самастойна, хаця прадугледжваецца стварыць не больш як 3 тысячы новых рабочых месц у дзяржаўным і недзяржаўным сектарах. Астатнія зоймуцца прадпрымальніцкай дзейнасцю? А куды думаюць уладкаваць 120 тысяч праз службу занятасці? Паклапоцяцца аб развіцці сярэдняга і малога бізнесу, прадпрымальніцтва? Але ж немагчыма весці справу без надзейнай заканадаўчай абароны ўласнасці. Нельга развіваць вытворчасць пры грабежніцкіх падатках, якія ставяць на мяжу банкруцтва вытворцаў.

Незразумела, як пераарыентоўваць людзей з дзяржаўнай службы на развіццё прыватнага бізнесу. Прадпрымальнікі заяўляюць: на словах — нам поўная падтрымка, а на справе робіцца ўсё, каб не даць магчымасці выжыць.

Для максімальнага змякчэння працэсаў, звязаных з вызваленнем людзей, што непазбежнае пры станаўленні рынку працы /без яго рыначных сістэм не існуе/, патрэбна дакладная праграма. Дзе яна?

Без радыкальнай эканамічнай рэформы нічога добрага нас не чакае. Пакуль што сітуацыя ў эканоміцы невыразная, дакладна не акрэсленая. Калі ж яна застанецца такой і далей, то планка нашага жыццёвага ўзроўню апусціцца яшчэ ніжэй. Ніхто нам не дапаможа. Не выратуе і саюз з Расіяй.

Нас жа ўвесь час пераконваюць: галоўная прычына нашых бед — разрыў дзелавых сувязей. Адновім іх і неўзабаве запрацуем нармальна. Так што ніякай віны ўрада тут няма. Наадварот, яму трэба дзякаваць за падпісанне дагавора аб аб"яднанні грашовых сістэм.

Падобная аргументацыя не што іншае, як спроба зняць з сябе адказнасць за катастрафічны стан народнай гаспадаркі, за рэзкае пагаршэнне сацыяльна-эканамічнага становішча насельніцтва.

Нельга цешыць сябе ілюзіямі аб хуткім аздараўленні вытворчасці і закрываць вочы на тое, што і ў Расіі цяжкасцей хоць адбаўляй. Яе эканоміка не дасягнула яшчэ ніжняй рысы. Размова аб стабілізацыі пойдзе тады, калі інфляцыя ў 5—7 працэнтаў пратрымаецца не менш дзесяці месяцаў. Ва ўсякім разе, спадзяюцца на гэта. Пакуль жа там каля 30 працэнтаў нерэнтабельных прадпрыемстваў.

Расійскі ўрад ніяк не можа разлічыцца з насельніцтвам. Калі ў студзені яго доўг па выплатах зарплаты складаў 766 мільярдаў рублёў, то на першае красавіка — ужо больш як 2 трыльёны. Няма паступленняў у дзяржаўны бюджэт, а запускаць друкарскі станок для выпуску грошай — значыць раскручваць новы вітое інфляцыі.

Як вялікі плюс нам падносіцца той факт, што нашы цэны знізяцца да ўзроўню расійскіх. Але ж не спяшайцеся радавацца. Расія дапускае рост цэн за сёлетні год у 5 разоў — у месяц 7—8 працэнтаў. Мяркуецца, што курс долара дасягне да канца года 3 тысяч рублёў. Паколькі датацый не прадбачыцца, долар будзе паступова паўзці ўверх.

Ніхто нічога нам бясплатна не дасць. Толькі недальнабачны палітык можа перш за ўсё клапаціцца аб людзях чужой краіны — а Беларусь з"яўляецца суверэннай дзяржавай, — забываючы аб інтарэсах сваіх грамадзян. У нас няма сур"ёзных экспертных ацэнак таго, што адбываецца ў Расіі, з пункту гледжання эканомікі, што канкрэтна прынясе нам заключанае з ёю пагадненне. Застаецца толькі верыць на слова "бацькам" дагавора, іх запэўніванням наконт выгад, якія мы атрымаем. Паверым і на гэты раз? Магчыма, і атрымаем важкія эканамічныя дывідэнды дзякуючы добрым адносінам нашага прэм"ера з расійскім.

*Пётр СІДАРОВІЧ.*

## ■ Далёкае-блізкае

# ВЕЛІКОДНЫЯ БЫЛІ

***Галодныя і халодныя пасляваенныя гады. На працадні-"палачкі" ў нашым калгасе нічога не давалі, мала ў каго быў хлеб на стале. Але велікодных святаў усе чакалі з асаблівай радасцю і надзеяй.***

### ШОСТАЯ БУЛАЧКА

Аднаму Богу вядома, дзе цётка Арына здабыла пшанічнай мукі. Можа, выменяла ў млынара тыя пяць кіло на адзіную сваю раскошу — хустку-кашміроўку або зарабіла ў кладаўшчыка, малоцячы яму цэпам збажыну. Як бы там ні было, напярэдадні Вялікадня, у "чырвоную суботу", шэсць духмяных булачак з падпечанай жоўтай скарынкай ляжалі на стале, накрытыя самаробным палатняным ручніком. І шасцёра яе дзяцей, адно аднаго менш, глыталі слінкі, чакаючы, пакуль прыйдзе тое "смачнае заўтра".

Па суседству з Арынай жыла такая ж удава-салдатка Алена з хлопчыкам Андрэйкам. Часта хварэла. Хлопчык збіраў у полі перамерзлыя бульбяныя клубні. Называліся яны "пышкі". Бліны з іх можна было спячы, хаця з выгляду яны атрымліваліся цёмныя. І цвёрдыя, як падэшва.

Цётка Арына шкадавала суседку. Ведала, што ў яе будзе нішчымны Вялікдзень. Узяла непрыкметна адну булачку, самую вялікую, і занесла Алене. Галодная Арыніна "каманда" адразу "засекла" гэты факт. Усе шасцёра вушасцікаў запытальна і сурова глядзелі на маці. Тая апусціла вочы, ціха сказала: "Так трэба, дзеткі. Галадаюць яны".

Недзе ў шасцідзесятых гадах, заехаўшы ў вёску, даведаўся, што Андрэйка працуе ў калгасе камбайнерам. І яшчэ расказала хворая бабулька Арына, што хлопец прывёз ёй з першай "натуральнай палучкі" мех мукі вышэйшага гатунку. Помніў, відаць, Андрэйка тую велікодную булачку.

### ГУЛЬНЯ Ў "МАЦАКІ"

Які ж Вялікдзень без чырвоных яек? Фарбавалі іх, апускаючы ў кіпень з лупінамі цыбулі. Для дзяцей гэта была падзея. З самай раніцы ля хаты старога Яўсея, дзе ляжала нейкае бярвенне, збіралася вялікая хеўра і высвятляла: чыё яйка мацнейшае? Глядзіш, непрыкметнае вастраносенькае яечка разбівала ўшчэнт "таўстуноў". Уладальнік "мацака" адчуваў сябе героем, а той, у каго "трэснула", моўчкі адыходзіў убок.

Аднойчы ля нас з'явіўся кульгавы бабыль Пятрусь. Усю вайну ён прасядзеў на печы, а цяпер хваліўся, што быў партызанскім сувязным. "Налятайце, галадранцы. Будзем гуляць на выйгрыш, — сказаў ён п'яным голасам. — Мой "мацак" трэсне — аддаю яго вам, ваш "разваліцца" — вы кладзяце ў маю кішэню".

І што ж вы думаеце, за якую паўгадзіну гэты Пятрусь абшастаў нас да ніткі. Набіў дзве кішэні "трафеямі". Добра, што падышоў конюх Антось Яловік.

— Аддай дзецям яйкі, — злосна сказаў ён. — Ведаю, што ў цябе за "мацак". Зноў, як і летась, высмактаў з яйка бялок і жаўток і наліў туды смалы. Таму і б'еш, як каменем.

Збянтэжаны Пятрусь вылупіў вочы. І п'янка прайшла: "Ды я... я пажартаваў. Забірайце, галадранцы, свае яйкі".

Мы пабеглі дадому, каб выкленчыць у маці яшчэ хаця б па аднаму цэленькаму, моцненькаму. А Петруся як ветрам садзьмула.

### ВЫБУХ У ВЕРБАХ

Мы зайздросцілі кірпанасаму, не па гадах сур'ёзнаму Кольку, нашаму незаменнаму "атаману". У яго быў самаробны наган, вельмі падобны на сапраўдны. Зроблены з дубу, пафарбаваны ў чорны колер. З барабанам для патронаў, з мушкай. І яшчэ маці пашыла Кольку са старых салдацкіх штаноў хвацкае галіфэ. Колька дамогся, каб ззаду ў тым галіфэ прышылі трэцюю кішэню для нагана. Цяпер дванаццацігадовы "атаман" вельмі высока трымаў галаву.

Як сёння памятаю, на другі дзень Вялікадня наша каманда хлапчукоў гуляла ў вайну. Ля старых вербаў, на беразе рэчкі Шаць зрабілі з галін будан, "камандны пункт", выставілі паставых. Ва ўсіх былі драўляныя кулямёты. З крыкам "ура!" бегалі па поплаве, бралі ў палон "немцаў".

Раптам Віцька Ламака крыкнуў: "Снарад!" Мы кінуліся да яго. З-пад засохлай травы тырчэў смяротны жалезны нос з жоўтым наканечнікам. "Раскладзём агонь і ўзарвём снарад!" — раздаваліся вясёлыя галасы. Наш атаман сур"ёзна сказаў: "Трэба бегчы ў вёску, няхай мужчыны прыйдуць. І абавязкова паведаміць кавалю Нупрэйчыку, ён сапёрам у арміі быў".

Недзе праз гадзіну прыйшоў Нупрэйчык, ціхі мужчына, і яшчэ некалькі вяскоўцаў. Яны адагналі дзяцей, пачалі збіраць сушняк, раскладваць агонь. Ужо надвячоркам у вербах грымнуў страшэнны выбух. Ад нашага "каманднага пункта" і галінкі не засталося.

Доўга потым не хацелася нам гуляць у вайну. А Колька сказаў маці, каб адпарола трэцюю кішэню ў галіфэ. Бацька хлопчыка не вярнуўся з фронту, і ён, думаецца, вельмі востра адчуваў жахі ваеннага ліхалецця. А гэты выпадак са снарадам "зачапіў" у душы нашага "атамана" нейкую струну.

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*

## Шыварат -- навыварат

# ЧУЖАЯ КАПЕЙКА "НЕ ГРЭЕ"

**Інспекцыяй Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь па Мінскай вобласці была праверана правільнасць размеркавання і выкарыстання дзяржаўных сродкаў, выдзеленых з рэспубліканскага і мясцовага бюджэтаў упраўленням сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Барысаўскага і Валожынскага райвыканкомаў.**

Можна адназначна канстатаваць, што атрыманыя ўпраўленнямі сродкі на пакрыццё кампенсацыйных выплат за прададзеную і купленую прадукцыю, іншыя не прадугледжаныя заканадаўствам выплаты выкарыстаны на адпаведныя мэты ў поўным аб"ёме і своечасова.

Між тым, упраўленні названых райвыканкомаў, як орган дзяржаўнай улады, - атрымліваючы ў поўным аб"ёме сродкі на пакрыццё расходаў з мясцовых бюджэтаў, практыкавалі неабгрунтаваны збор і выкарыстанне сродкаў калгасаў і саўгасаў на ўтрыманне свайго апарату. Напрыклад, па ўпраўленню Барысаўскага райвыканкома гэты дадатковы збор склаў 2,2 мільёна рублёў. Яны пайшлі на выплату заработнай платы, прэміраванне і набыццё каштоўных падарункаў, некаторыя іншыя мэты. Так, амаль 65 тысяч рублёў было выплачана вадзіцелю Барысаўскага райаграпрамснаба, 197,5 тысячы рублёў накіравалі на прэміраванне былых работнікаў упраўлення. Менавіта за грошы мясцовых гаспадарак набываліся каштоўныя падарункі для 40, 50, 55-гадовых юбіляраў-упраўленцаў.

Дапускаліся і іншыя факты нямэтавага выкарыстання атрыманых ад гаспадарак сродкаў. Так, у ліпені-жніўні мінулага года 23 гаспадаркі Барысаўскага раёна пералічылі ўпраўленню на ўтрыманне радыёстанцыі "Бор" 1 мільён 380 тысяч рублёў. І ў той жа час упраўленне фактычна ўсе расходы на яе на працягу адзінаццаці месяцаў спісвала на бюджэт. А пералічаныя гаспадаркамі грошы накіроўвалі зноў жа на выплату прэмій, матэрыяльную дапамогу, іншыя мэты.

Аналагічныя парушэнні заканадаўства былі дапушчаны і Валожынскім упраўленнем сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання. Напрыклад, такі факт. Пасля пераходу ўпраўлення на бюджэтнае фінансаванне для абслугоўвання яго апарату выдзелілі дзве машыны. Аднак тут фактычна карысталіся шасцю, чатыры з якіх патрэбна было скараціць. У цэлым на ўтрыманне гэтых аўтамашын прыйшлося незаконна патраціць амаль адзін мільён 165 тысяч рублёў.

На падставе выяўленых фактаў Кантрольнай палатай Рэспублікі Беларусь па Мінскай вобласці былі прыняты адпаведныя рашэнні. Згодна з імі, начальнікам упраўленняў сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання райвыканкомаў: Барысаўскага — Л.Стэфанскаму і Валожынскага — З.Лужынскаму прапанавана разгледзець матэрыялы праверак і прыняць неабходныя меры па ліквідацыі выяўленых парушэнняў.

Нядаўна ў Кантрольную палату Рэспублікі Беларусь па Мінскай вобласці прыйшло паведамленне з фінансавага аддзела Барысаўскага райвыканкома. У ім гаворыцца, што грашовыя налічэнні, зробленыя на Л.Стэфанскага ў суме 172 тысячы рублёў і галоўнага бухгалтара ўпраўлення Л.Габрусева ў суме 120 тысяч рублёў, утрыманы ў сакавіку 1994 года поўнасцю. А грошы, незаконна атрыманыя работнікамі апарату ў выглядзе прэмій і даплат, — у агульнай суме 454,3 тысячы рублёў, — пералічаны на рахунак рэспубліканскага бюджэту.

*Алена РАТАЗЕЕВА, вядучы кантралёр.*

## ■ Покліч вясны



**Веснавое поле... Адпачыўшае за зіму, дарагое сялянскаму сэрцу... За сотні гадоў прырода не змяніла законаў, па якіх жыве яно гэтай парою. Пад цёплымі промнямі сонца пачынае дыхаць кожны яго лапік, кожны камячок глебы, і гаспадар імкнецца ўлагодзіць яе арганікай і тукамі, нібы жывую істоту. Яна ж з кожным днём набірае тую сілу, якая праз два-тры месяцы ўздыме над паверхняй зямлі ўраджаі збожжа, траў, іншых культур... І ніякая палітыка тут не патрэбна. Бо чым яна "палымяней", тым хутчэй губляе маці-зямля сваю цудадзейную сілу, ператвараецца ў пустку...**

# НЕ ДЛЯ РАПАРТА

Менавіта да гэтай высновы прыходзіш сёння, наведаўшы калгасныя палеткі і пагутарыўшы з людзьмі, якія, не зважаючы на эканамічныя цяжкасці, забыўшы пра рознагалоссі паміж шматлікімі партыямі, імкнуцца як мага лепш выканаць самім жыццём наканаваную ім справу — правесці сяўбу яравых культур.

У перадсвяточныя дні наш фотакарэспандэнт наведаў калгас "Камунар" Бярэзінскага раёна і ўбачыў тое, што, пэўна, мог бы ўбачыць у любой іншай гаспадарцы: людзі працуюць на палях, як і раней. І ўсё ж ёсць у іх працы адметная рыса.

— Сеем не для рапарта, не для птушачкі, — падкрэсліваюць палявод з 30-гадовым стажам Пётр Лескавец, а таксама трактарыст Валерый Падольскі і шафёр Мікалай Скамейка. Гэтую думку пацвярджаюць іх калегі Мікалай Мінін, Анатоль Буй, Сяргей Дадонаў, сеяльныя агрэгаты якіх працавалі ў той дзень на іншых палетках калгаса.

Не для рапарта... Ну а як наконт культуры выканання работ, захавання тэхналогій?

— Механізатары і сеяльшчыкі — людзі, якія не сёння і не ўчора ступілі на хлебаробскую сцежку, — гаворыць галоўны аграном гаспадаркі Васіль Буры. — Кожны з іх мае дастатковы вопыт палявода, кожны мае сумленне, якое мне, як спецыялісту, дазваляе не хвалявацца за якасць выкананай імі работы.

Сёлетні палетак яравых збожжавых і зернебабовых калгаса "Камунар" — амаль 900 гектараў. І калі ў дзень прыезду фотакарэспандэнта ўгаспадарку тут было пасеяна крыху больш палавіны адведзенай плошчы, то заўтра хлебаробы гэтага калгаса могуць са спакойным сумленнем святкаваць хто Першамай, хто Вялікдзень, бо ячмень і авёс у абодвух аддзяленнях пасеяны.

Добрага ўраджаю вам, камунараўцы!

*Іван АБАБУРКА.*

**На здымках:** сяўба аўса; больш як трыццаць гадоў працуе ў паляводстве Пётр **Лескавец**; галоўны аграном Васіль **Буры** /злева/ гутарыць з механізатарамі Валерыем **Падольскім** і Мікалаем **Скамейкам**; трактарыст Мікалай **Буры** ў хвіліны адпачынку.

*Фота Анатоля БАСАВА.*





## ■ Мова зямлі нашай

# У Засценку Скрыплева файна боты скрыпнулі

**Пытань, Люцінка, Добрая Зямля, Караблі, Дайнава — назвы некаторых валожынскіх вёсак. Іх у раёне больш за 400. Хатка пры хатцы, садок пры садку — сядзібы, як сарамлівыя дзяўчаты, выглядаюць вокнамі з-за зубчастых тынкоў. Вёска — гэта своеасаблівая вялікая радня, дзе кожны свой сярод чужых. А таму і называюць людзі сваю маленькую радзіму па-сваяцку цёпла: "мае Замасцяны", "маё Залессе", "маё Забор"е".**

Аднак сваяцтва, прычым даволі блізкае, маюць і самі назвы. Іх на Валожыншчыне багата, нібы арэхаў-спарышоў у ляшчэўніку. Я падлічыла: амаль сорак вёсак у раёне маюць аднолькавыя найменні. Ёсць Студзянец у Гародзькаўскім і Студзянец у Забрэзскім сельсаветах. Зарэчча ў Ракаўскім і Зарэчча ў Дорскім, Леснікі ў Пяршайскім і Сугваздаўскім, Замасцяны ў Сакаўшчынскім і Івянецкім сельсаветах, ёсць дзве вёскі Багданава, двое Старынкаў, Шапавалаў, Вуглоў і г.д.

Тапонімы — гэта дзіўная мова зямлі. А калі пагартаеш гэтую жывую кнігу назваў, то сустрэнешся ў валожынскім краі з Пятровічамі і Янушкавічамі, Харытонамі, Макаранятамі і Янавічамі, Мішанамі і Ігнатавамі. Нібы маладыя пасля заручын, жывуць тут Монькі і Данілкі, Ядзейкі і Цімкавічы, Рымавічы і Адамкі, Александрова і Аўгустова...

Берагуць, бароняць ад ліха свае сямейныя гнёзды жыхары вёсак з незвычайнымі назвамі: Галубы, Салаўі, Вароні, Сарокі, Арлоўшчына, Жураўцы, а таксама Кражына і Цвіркаўшчына.

Зацішлівыя, звычайна аддаленыя ад бойкіх дарог мясціны абралі для свайго прыстанішча Бабры, Козлікі, Хамічы, Звяркі, Коцеўшчына, Волкаўшчына, Казельшчына, Кабыльчыцы.

Жывуць у налібоцкім краі Ткачы, Леснікі, Ганчары, а якое рамяство даспадобы многім у Печаўшчыне і Пральніках, здагадацца не цяжка. Насяляюць валожынскую зямлю Татары, Казакі, «баяры» — Баяршчыну.

У вялікай і дружнай тапанімічнай сям"і я сустрэла і вёску, жыхарам якой нельга «хварэць на пана», бо называецца вёска Праца /Багданаўскі сельсавет/.

Работу да сёмага поту любяць не толькі тут. У Падбярэзскім сельсавеце ёсць вёска Пуні, а непадалёку — Мяхі. Умалотна штогод у Пунях, багата тут збажыны, відаць, маюць гаспадары, а вось, каб здрабніць зерне, трэба збірацца ў дарогу за блізкі свет, бо Млынкі знаходзяцца прыкладна за трыццаць вёрст адсюль — ажно за Івянцом! Нямала кіламетраў перамелюць жорны дарог, пакуль фурманка адолее шлях у Млынкі.

А натрудзіш рукі і ногі за дзень — захочацца вадзіцы. Улетку найсмачнейшая, вядома ж, крынічная. Яна — сапраўды нектар зямлі. А дзе наталіць смагу — гэта ўжо выбірайце самі: ці ў Крыніцы, што ў ракаўскім кутку, ці ў Крыніцы, што ля Сакаўшчыны. А камусьці, відаць, больш даспадобы вада з Раднікоў, што «бруяцца» ў Івянецкім сельсавеце. І толькі дай Бог, каб ніколі не перасыхалі крыніцы людской дабрыні, спагады, любові да маленькай радзімы, дзе карэніцца твой род...

Зрэшты, гэта не адзіныя вёскі, назвы якіх струменяцца бадзёрасцю, якой адорвае нас вада. Ёсць на сакаўшчынскай зямлі Пруднікі, ёсць яны і ў Бабровіцкім сельсавеце. На Узбалаччыне нясуць сваю жыццёвую плынь Рачаняты. Гэтая назва асабіста ў маім уяўленні асацыіруецца з ласкавай прахалодай. Наступнае найменне клубіцца тугой цеплынёю — Душкава. Але ёсць і «гарачэйшая» назва — Банькава. Няма праблемы, чым нанасіць вады ў чан — паблізу Вядзернікі! Словам, калі верыць тапаніміцы /топас — мясцовасць, а оніма — імя/, то на Валожыншчыне ёсць дзе памыцца, ёсць і чым папарыцца. Можна злёгку пасцёбацца венічкам з Беразаўца, а можна і ад душы — тады, калі ласка, у Дубашы! У такой лазеньцы разамлееш, аднак потым пажвавееш.

Ды венічкаў на Валожыншчыне можна навязаць багата, на любы густ. Хочаш дубовы — кроч у Дубкі, а жадаеш з вярбы — наведайся ў Вербаўцы. А якую багатую вязанку будзеш мець, калі пабываеш у Вішневе, Асінаўцы, Каштаноўцы, Альшанцы, Сасноўцах. А лепш адразу шыбаваць у Лістапады.

Цяпер давайце наведаемся на своеасаблівы тапанімічны агарод. Ступілі крок — і адразу заблыталіся ў сакаўным націнні бульбоўніку. Куды ж мы трапілі?! Ну, безумоўна ж, у Кісялі. Толькі тут расце такая крухмалістая бульба! А якія там найчасцей вараць кісялі: яблычныя ці журавінныя? Завітайце ў вёску, даведайцеся самі. Самае ж шыкоўнае суквецце разнастайных раслінных культур, канечне ж, у залескіх Агародніках. А якія храбусткія, крамяныя агурочкі па фірменнаму рэцэпту гатуюць на зіму ў Часнаках! Найлепш жа квасяць адну з самых старажытных культур, вядома ж, у Капусціне, і ніколі не перабаршчыць солі ўмеюць толькі ў Саланой.

Зазірнём у вёскі, назвы якіх настойліва агітуюць за вегетарыянства. Гэта не толькі Часнакі і Кісялі, але яшчэ і Каноплічы, Крапіўнікі, Крупшчына, Грушаўшчына. Але ёсць і «антыподы», у прыватнасці, Кульшычы. Самыя хлебадайныя людзі жывуць, вядома, у Дружычах, а таксама ў Куцянятах. Быццам ва унісон назве гэтай вёскі гучыць і наступны выраз: «Тут дзень журбы і век гульбы», бо менавіта ў Куцянятах умеюць прыняць гасцей, наладзіць /мяркуючы па назве/ такое застолле, пасля якога захочацца ўжо не вадзіцы з Крыніцы, а, магчыма, салёненькага пітва з агурковым водарам з Расолішкаў.

Нярэдка трапляюцца на Валожыншчыне і назвы — сапраўдныя суродзічы весялосці, добрага настрою. У адной з вёсак ой як трымаюць фасон шляхецтва. Гэта не што іншае, як Мазурка! Блукаючы па тапанімічных сцежках, я зазірнула і ў вёску, дзе так любяць хвацкія, імпэтныя танцы. Здагадаліся, што гэта за вёска? Правільна, Ліхачы! Наведалася і ў куточкі, дзе, пазбыўшыся жыццёвых клопатаў, можна пабыць сам-насам і нацешыцца: як жа цудоўна грае Дудка ў Зацішку або ў Засценку Скрыплева! А каб паслухаць больш мудрагелістую музыку, варта завітаць у Клерымонты, Каліварыю, Кантраполь, Зузанполь, Эпімахі... Якое чароўнае водгулле жыве ў гэтых назвах! А ў гэты розгалас аксамітам уліваюцца Пералясанка, Палогіна, Дарагунь, Гардынава... Суцішцеся на хвілінку — і вы пачуеце: Зямля спявае! І гэтая песня так лагодзіць душу!

*Па тапанімічных сцежках Валожыншчыны хадзіла Ірына ПАШКЕВІЧ.*

